Выдаецца са сьнежня 1988 г.
Кошт 60 кап.

# НАВІНЫ
Беларускага Народнага Фронту
«АДРАДЖЭНЬНЕ»

1'1991




с.8 Вокліч «Страйк!» з маланкавай хуткасьцю абляцеў Менск.

с.2 В.Быкаў «БНФ — адзіная на Беларусі апазіцыя рэакцыі»



с.6 Беларусы таксама ўдзельнічалі ў вайне за Кувэйт.



с.7 Пасьля Гарбачова Менск наведаў лідэр «Памяти» Дзьмітрый Васільеў.

У нумары выкарыстаныя фотаздымкі Кастуся Войткі й Уладзімера Панады.



# ПРЭЗЫДЭНЦКІ СЬЦЯГ БНР

## "УЗДЫМЕМ ЯГО ВЫСОКА – АБО ЁН ПРЫКРЫЕ НАС!"

(З успамінаў)

Па сьмерці Прэзыдэнта БНР Васіля Захаркі ў сакавіку 1943 г. было ясна, што ягонае памешканьне будзе прафанавана ўраднікамі гітлераўскай службы бясьпечнасьці або, у найлепшым выпадку, нямецкім служкам Ермачэнкам. Таму сябрамі беларускага нацыянальнага актыву была заарганізаваная апека над усімі дарагімі памяткамі па вялікім Нябожчыку й ягонай працы, як Прэзыдэнта БНР. У ліку гэтых дарагіх сэрцу кажнага беларуса памятак быў архіў БНР і прэзыдэнтаў сьцяг.

Мне выпала на долю на даручэньне Прэзыдыюму Рады БНР перахоўваць якраз гэны сьцяг. Перахоўваўся ён некалькі дзесяткаў кілёмэтраў ад Бэрліна з гледзішча на небясьпеку паветраных налётаў на нямецкую сталіцу.

Вясна 1945 г. Хуткімі крокамі набліжаўся ведамы й ясны эпілёг вайны. Ці далей змагу перахоўваць дарагую нацыянальную памятку, – сталася для мяне з кажным днём болей і болей сумліўна.

Яшчэ ўлетку 1944 г. увязаўся я ў актыўнае супрацоўніцтва з БНП (Беларуская Нацыянальная партыя. –Рэд.), асабліва зь некаторымі сябрамі ЦК гэтае партыі.

Адзін із сяброў ЦК БНП прыгатаўляўся із сваім аддзелам да змаганьня за волю народу й беларускую дзяржаўнасьць на Бацькаўшчыне. Для мяне было назначана іншае заданьне. Гэтаму сябру было пастаноўлена перадаць гэтую сьвятую памятку.

Сталася гэта ў першых днях сакавіка 1945 г. у Бэрліне, у дзялянцы Шарлётэнбург, у гатэлі "Гамбургэр Гоф" застаў я сябру камадзіра Р. у прысутнасьці сьв.п. маёра Гелды ды аднаго ад'ютанта – абсальвэнта Віленскай Беларускай Гімназіі, прозьвішча якога сяньня не прыпамінаю.

Выясьніўшы мэту свайго прыбыцьця, я выняў з партфэля нашую нацыянальную сьвятасьць – бел-чырвона-белы сьцяг Прэзыдэнта Захаркі. Усхапіліся зь месца маладыя арлы – жаўнеры. З адпаведнай дзеля пашаны паставай стаўшы на калені, узяў з маіх рук сябра камандзір, сьцяг, пацалаваў яго і з павагай і моцай прысягі выказаў гэткія словы: "Уздымем яго высока, – або ён пакрые нас!".

Дарогай падпольнай вандроўкі пайшоў сьцяг Прэзыдэнта БНР на Бацькаўшчыну, каб там быць сьведкам і ўдзельнікам крывавай долі свайго народу.

Ня ведаю сяньня ягонае долі, ані энтузыястычных юнакоў, якія яго туды панесьлі. Адно толькі пэўна – не аднаго ён ўжо там прыкрыў... Але й не адныя рукі ўздымаюць яго што раз вышэй, аж пакуль не абыме некалі трыумфальным павевам усяе нашае, ужо вольнае Бацькаўшчыны.

Прайшлі гады... На твае рукі сябра камандзір, складаў я сваю прысягу – "Здабуду незалежную Беларусь, або ў змаганьні злажу сваё жыцьцё!" Сяньня здалёк пасылаю другую частку гэтае прысягі: "Наш сьцяг дзяржаўны Беларускай Народнай Рэспублікі ўздыму высока, або хай ён прыкрые мяне!"

С.КАЛАДЗЕЙ, сябра БНП.
"Бацькаўшчына", № 8(52)
25 сакавіка 1949 г

макратычнай Грамады, аднак захаваў за сабой сяброўства ў Сойме. На зьезьдзе ў склад Сойму былі выбраныя 49 чалавек, астатнія 47 вакансіяў будуць падзеленыя паміж прадстаўнікамі ад вобласьцяў (па 2 ад кожнае) і прадстаўнікамі ад партыяў грамадзкіх арганізацыяў і рухаў Такім чынам, на сёньняшні дзень Сойм уяўляе сабой адкрытую структуру.

| № | Прозьвішча, імя | № | Прозьвішча, імя |
|---|---|---|---|
| **Сябры Сойму, выбраныя ад «шырокага» фронту** | | | |
| 1. | Анцулевіч Уладзімер | 17. | Купава Мікола |
| 2. | Арлоў Уладзімер | 18. | Лапко Канстанцін |
| 3. | Банкевіч Генадзь | 19. | Мальдзіс Адам |
| 4. | Балаховіч Хрысьціна | 20. | Марачкін Аляксей |
| 5. | Барадулін Рыгор | 21. | Міхноў Сяргей |
| 6. | Буйвал Валеры | 22. | Мурог Сяргей |
| 7. | Быкаў Васіль | 23. | Собаль Міхась |
| 8. | Вольскі Артур | 24. | Соклаў-Воюш Сяржук |
| 9. | Вячорка Вінцук | 25. | Суша Алесь |
| 10. | Габрусеў Сяргей | 26. | Сьвістуновіч Сымон |
| 11. | Грабоўскі Эдуард | 27. | Ткачоў Міхась |
| 12. | Дубавец Сяргей | 28. | Трыгубовіч Валянціна |
| 13. | Емяльянаў Алесь | 29. | Хадыка Юры |
| 14. | Івашкевіч Віктар | 30. | Чарняўскі Міхась |
| 15. | Крукоўскі Уладзімер | 31. | Чуйко Вера |
| 16. | Кулік Яўген | 32. | Шунейка Яўген |
| **Сябры Сойму ад фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі** | | | |
| 33. | Аксаміт Мікола | 40. | Новік Уладзімер |
| 34. | Антончык Сяргей | 41. | Пазьняк Зянон |
| 35. | Баршчэўскі Лявон | 42. | Папкоў Сяргей |
| 36. | Германчук Ігар | 43. | Садоўскі Пётра |
| 37. | Голубеў Валянцін | 44. | Сямдзянава Галіна |
| 38. | Заблоцкі Уладзімер | 45. | Трусаў Алег |
| 39. | Зданевіч Лявонці | | |
| **Сябры Сойму ад фракцыі БНФ у Менгарсавеце** | | | |
| 46. | Вашчанка Галіна | 48. | Цялькоўскі Андрэй |
| 47. | Гурыновіч Анатоль | 49. | Чарняўскі Ігар |
| **+ 47 вакансіяў для прадстаўнікоў вабласьцей, партыяў, грамадзкіх аб'яднаньняў і рухаў** | | | |

## Абараніць парасткі дэмакратыі

На зьезьдзе быў прыняты шэраг Ухвалаў і Зваротаў па актуальных пытаньнях грамадзка–палітычнага жыцьця. Ва ўхвале "Пра адносіны Фронту да партыяў і грамадзкіх арганізацыяў", сказана аб неабходнасьці адзінства ўсіх дэмакратычных сілаў, спэцыяльна падкрэсьлена, што БНФ зьяўляецца адкрытай структурай як для арганізацыйнага аб'яднаньня, так і для каардынацыі намаганьняў з усімі, хто мае агульныя з Фронтам мэты. Ва ўхвале яшчэ раз пацьверджана, што Фронт не атаесамляе шараговых камуністаў з партыйнай намэнклятурай, улічвае розьніцу паміж маральнай адказнасьцю першых і юрыдычнай – другіх. БНФ адмовіўся таксама ад рэальнага супрацоўніцтва з КПБ–КПСС.

Ва ўхвале "Аб шахцёрскіх страйках" заяўлена, што Фронт салідарызуецца з патрабаваньнямі шахцёрскіх страйкамаў аб роспуску зьезду народных дэпутатаў СССР, адстаўцы прэзідэнта СССР і ягонага габінэту міністраў.

У звароце "Аб рэфэрэндуме" выказана стаўленьне Фронту да гэтае акцыі Масквы. БНФ разглядае правядзеньне рэфэрэндуму на Беларусі як незаконную акцыю, бо ў Рэспубліцы няма закону пра Рэфэрэндум і рашэньне аб яго правядзеньні не прымалася Вярхоўным Саветам Беларусі. У звароце са шкадаваньнем адзначана, што Беларусь стала адзінай з эўрапейскіх рэспублік СССР, дзе рэфэрэндум адбыўся паводле заплянаванага сцэнару. Але нават у такіх варунках сума тых, хто ў Менску, Гародні, Віцебску, Наваполацку, Маладэчне адказаў "не" або наогул ня ўдзельнічаў у гэтай акцыі, пераважае колькасьць галасоў пададзеных за Саюз. Усіх, хто сказаў на рэфэрэндуме "не" або ня ўдзельнічаў у галасаваньні, БНФ заклікаў згуртавацца ў шэрагах Фронту.

У "Звароце да народных дэпутатаў і прадстаўнікоў сродкаў масавае інфармацыі" Фронт прапанаваў скіраваць усе намаганьні дзеля ліквідацыі партыйнага кантролю над дзяржаўнай прэсай.

Ацэньваючы значэньне 2-га зьезду БНФ, трэба зазначыць, што ён меў канструктыўны характар, прапанаваў рэальную канцэпцыю будучыні Беларусі й яе здабыцьця, паказаў, што за два з паловаю гады існаваньня Фронт стаў сур'ёзнай, на жаль, пакуль што адзінай на Беларусі апазіцыйнай рэжыму арганізацыяй. Згубіўшы за гэты пэрыяд у колькасьці, БНФ прыдбаў у якасьці. Асабліва гэтыя словы датычацца прадстаўніцтва Фронту у Саветах.

Вызначыўшы на зьезьдзе сваё стаўленьне да кампартыі, дэлегаты канчаткова акрэсьлілі антыкамунізм руху. У кантэксьце красавіцкае рэформы цэнаў і прагнозу экспэртаў яшчэ большы ўсплёск дэфіцыту праз 1,5–2 месяцы, адкрыты антыкамунізм Фронту можа стаць вельмі прывабным для жыхароў Беларусі, якія ўжо праз 1,5–2 месяцы ачуняюць ад зьвязаных з рэфэрэндумам ілюзіяў.

Ад імя 2-га зьезду БНФ Вінцук Вячорка павіншаваў народ Беларусі зь 73-й гадавінай абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Ён сказаў, што далейшы гістарычны шлях беларускага народу, пэрспэктывы адраджэньня нацыі шчыльна зьнітаваныя зь ідэямі незалежнасьці, увасобленымі ў кароткім часе існаваньня БНР. Хай дзень 25 сакавіка ўвойдзе ў кожную сям'ю, як усеагульнае нацыянальнае сьвята, як дзень адзінства і надзеі. Жыве Беларусь!

**Ірына ЛАЗОЎСКАЯ**

# МЫ СКАЗАЛІ САЮЗУ «ТАК»

***Рэзкае пагаршэньне ўзроўню жыцьця, татальны дэфіцыт, безнадзейнасьць і пэсімізм, чэргі, чэргі, чэргі ... Хто давёў нас да такога стану? Ці чакаюць нас перамены да лепшага, ці адзіная пэрспэктыва – далейшае падзеньне ў бездань галечы?***

Падвышэньне цэнаў адбылося. Якую цану мы заплоцім за гэтую рэформу й як зажывем пасьля яе?

Асноўная прычына росту цэнаў – плянавая эканоміка, у якой мы жылі й жывем цяпер. Менавіта яна ўвесь час правакуе дэфіцыт спажывецкіх і вытворчых тавараў, перавагу грашовай масы над прапановамі. Гэткі дэфіцыт існуе абсалютна ва ўсіх краінах з плянавай эканомікай, толькі ў Чэха-Славаччыне, ці ў былой ГДР ён праявіўся ў меншай ступені як у нас. Вось і ўсё адрозьненьне, і аніякія ідэялягічныя "вынаходніцтвы" не парушаць лёгіку эканомікі. Між тым, славуты пераход да рынку – гэта дасягненьне поўнае збалянсаванасьці попыту – прапановы й свабодныя цэны, рост якіх будзе залежаць ад ступені дэфіцыту. Безумоўна, што гэтая залежнасьць мае надзвычайнае значэньне для нас – чым большы рост цэнаў, тым больш значнае зьніжэньне ўзроўню жыцьця.

Вялікую працу па разбалянсаваньні савецкага рынку, стварэньні татальнага дэфіцыту, ажыцьцявіў ўрад СССР і асабіста былы міністар фінансаў, цяперашні прэм'ер Валянцін Паўлаў, які й цяпер працягвае гэткую работу (апошні прыклад – забарона на продаж дачнікам поліэтыленавай плёнкі). За час перабудовы дзяржаўная нутраная пазыка СССР вырасла амаль на 400 млрд рублёў (для параўнаньня, за 1981–1985 гг. – усяго на 37,8 млрд рублёў). Грашовая эмісія ў параўнаньні з тым самым пэрыядам узрасла ў некалькі разоў пры адначасным падзеньні тэмпаў росту эканомікі. Зьнешняя дзяржаўная пазыка СССР у 1990 годзе склала амаль 50 млрд даляраў.

Гэтых надзвычайных посьпехаў савецкі ўрад дасягнуў дзякуючы тром асноўным прычынам.

Па-першае, праз імкненьне ператварыць плянавую эканоміку ў "сацыялістычны рынак", што замарудзіла й зьвяло да мінімуму працэс рэформаў. Такім чынам была падарваная лёгіка плянавае эканомікі, што хоць неяк падтрымлівала спажывецкі рынак і рынак сродкаў вытворчасьці. Былі зьліквідаваныя тыя элемэнты цэнтралізаванага кіраўніцтва, якія яшчэ стабілізавалі эканоміку, трымалі пад кантролем інфляцыю, стрымлівалі незабясьпечаны таварам рост грашовае масы.

Адначасна, ва ўгоду ідэялагізаванай формуле "сацыялістычны рынак" не былі створаныя рынкавыя мэханізмы, якія ва ўсім сьвеце падтрымліваюць эканоміку, у прыватнасьці, мэханізмы антыінфляцыйнага рэгуляваньня, бо яны дзейнічаюць толькі на падставе прыватнае ўласнасьці на сродкі вытворчасьці. Натуралёвы вынік – некантралюемасьць росту грашовае масы ў краіне. За гады перабудовы фонды разьвіцьця вытворчасьці прадпрыемстваў узрасьлі ў 10 разоў. Утрая павялічыліся рэшткі сродкаў па фондах матар'яльнага заахвочваньня й сацыяльна-культурных мерапрыемстваў і жыльлёвага будаўніцтва.

Па-другое, праз палітыку паскарэньня, якая прадугледжвала апераджальнае разьвіцьцё машынабудаваньня ў межах былых структурных прыярытэтаў. Атрыманыя шляхам эмісіі дадатковыя фінансавыя сродкі напампоўваліся ў інвэстыцыйную сфэру. Большая частка дадатковых капітальных укладаньняў зьмярцьвела ў няскончаным будаўніцтве й неэфэктыўных вытворчасьцях, што выклікала моцную хвалю інфляцыі.

Па-трэйцяе, праз папулісцкую палітыку ўраду. Распачаўшы шмат папулярных сацыяльных праграмаў, (падвышэньне пэнсіяў, заработнае платы настаўнікам, чыноўнікам, партапарату, работнікам культуры ды інш., увядзеньне ільготаў і г.д.) урад не падмацаваў іх эканамічна. Сродкі на сацыяльныя мэты браліся не за кошт зьніжэньня выдаткаў на абарону, згортваньня неэфэктыўных інвэстыцыйных праектаў або павелічэньня тэмпаў росту нацыянальнага прыбытку, а .... шляхам друкаваньня грошай. Такі падыход на карані падарваў эфэктыўнасьць сацыяльных датацыяў. У выніку за чарговы камуністычны экспэрымэнт па стварэньні "сацыялістычнага рынку" зноў расплочваемся мы.

Плата – нябачанае пагаршэньне ўзроўню жыцьця.

Аднак ёсьць два прынцыпова розныя спосабы падвышэньня цэнаў. Адзін быў выкладзены ў праграме "500 дзён", другі – ва ўрадавай праграме пераходу да рынкавае эканомікі. Абраны апошні. І калі яшчэ да студзеня можна было вярнуцца да праграмы Шаталіна, то цяпер зваротнае дарогі няма.

Падвысіўшы аптовыя цэны зь 1 студзеня, урад паставіў прадпрыемствы й гандаль у бязвыходнае становішча. У выніку гэтае акцыі розьнічныя цэны сталі ледзь ня меншымі за выдаткі на выраб тавараў, а датацыі не былі прадугледжаныя.

Парадокс – на шляху да рынку стала невыгодна працаваць і гандляваць. Склады перапоўненыя, а крамы пустыя. Попыт расьце, а вытворцы згортваюць сваю дзейнасьць. Каб забясьпечыць рэнтабэльнасьць, прадпрыемствы патрабавалі падвышэньня розьнічных цэнаў. І мяйсцовыя ўлады дзеля выратаваньня прамысловасьці ішлі на лякальнае падвышэньне цэнаў. Гэта дазваляла рэакцыі й прэм'еру Паўлаву тут-жа абвінавачваць дэмакратаў Масквы й Ленінграду ў антынароднай палітыцы. Цяпер абвінавачваць няма каго. Урад разьлічвае, што створаныя за месяцы чаканьня падвышэньня цэнаў таварныя запасы дазволяць зрабіць магутнае таварнае ўліваньне й такім чынам стварыць ілюзію збыткоўнасьці на прылаўках і зьнізіць незадаволенасьць насельніцтва.

Калі каманда Яўлінскага прапаноўвала спачатку стабілізаваць грашовае абарачэньне, дзяржаўную нутраную пазыку, стварыць неабходны мінімум для разьвіцьця рынкавай эканомікі, і толькі потым лібэралізаваць рост цэнаў, дык Паўлаў хоча праз падвышэньне цэнаў стабілізаваць грашовае абарачэньне, зьнізіць дзяржаўную нутраную пазыку, пасьля чаго стварыць рынкавую інфраструктуру й лібэралізаваць цэны.

Для нас, спажыўцоў, і тая й другая рэформа паводле ацэнак экспэртаў пры камітэце па эканамічнай рэформе ВС СССР, прынясе падзеньне ўзроўню жыцьця на 20–30 працэнтаў. Але, паводле лёгікі прэм'ера Паўлава, пасьля адміністрацыйнага падвышэньня цэнаў нам давядзецца перажыць яшчэ й іх лібэралізацыю, якая яшчэ раз падштурхне рост цэнаў і дасьць яшчэ адно імклівае падзеньне ўзроўню жыцьця, якое згодна прагнозу тых самых экспэртаў пагоршыцца ня менш чым на 20%. Аднак гэта адбудзецца толькі пры ўмове рэалізацыі дэкляраванае рэформы. Тым часам досьвед Польшчы й Вугоршчыны (Венгрыі) паказвае, што камуністычныя ўрады спыняюцца на адміністрацыйным падвышэньні цэнаў. Такім чынам усё вяртаецца да ранейшага: ізноў квітнее дэфіцыт, толькі ўсё каштуе даражэй, а прыбыткі насельніцтва робяцца меншымі.

Дык чаму-ж была выбраная канцэпцыя, якая прынясе найбольшыя страты народу? У праграме "500 дзён" у першыя 100 дзён (да лібэралізацыі цэнаў) меркавалася правесьці цэлы комплекс мерапрыемстваў, якія паспрыялі-б старту рынкавай эканомікі й паслабілі-б уціск грошай на спажывецкі рынак.

Грошы прадпрыемстваў і насельніцтва павінны былі быць зьвязаныя праз рэалізацыю аб'ектаў няскончанага будаўніцтва, а таксама незапушчанага абсталяваньня, будаўнічых матар'ялаў, вайсковае маёмасьці цывільнага прызначэньня і г.д. насельніцтву. Меркавалася правядзеньне разьдзяржаўленьня й прыватызацыі, продаж за сымбалічную плату жытла, зямельных надзелаў і невялікіх прадпрыемстваў. Дзеля скарачэньне бюджэтнага дэфіцыту й забесьпячэньня нулявога росту грашовае масы меркавалася на 75 працэнтаў скараціць дапамогу замежным дзяржавам і на 10–20 фінансаваньне міністэрства абароны й КДБ.

Прапаноўвалася прыпыніць бюджэтнае фінансаваньне будаўніцтва ўсіх аб'ектаў зь нізкім працэнтам якасьці (за выключэньнем жытла); на 1991 год не прымаць новыя бюджэтныя праграмы (звыш 100 млн рублёў), акрамя праграмаў ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Праз 100 дзён мелася быць спыненая выплата датацыяў і субсідыяў прадпрыемствам, апроч абмежаванае групы. Цэнавую рэформу прапаноўвалася правесьці толькі пасьля гэтага.

Такім чынам, выкананьне прапанаваных у праграме "500 дзён" мераў прывяло-б да передачы ўласнасьці ў прыватныя рукі, а значыць да зьмяншэньня ўлады КПСС, міністэрства абароны, КДБ, апарату Саўміну й Дзяржплану. Ну а гэткія вынікі эканамічнае рэформы ў камуністычнай сьвядомасьці азначаюць ня што іншае, як адыход ад сацыялістычнага выбару.

ЦК КПСС і ўрад Паўлава паміж інтарэсамі народу й мэркантыльнымі інтарэсамі захаваньня сваёй ўлады выбралі апошняе, і ўся падрыхтоўка да падвышэньня цэнаў зьвялася да пакету мераў, нацэленых на канфіскацыю лішніх, на думку саюзнага ўраду, сродкаў насельніцтва й прадпрыемстваў. Самыя вядомыя з гэтых мераў – ўвядзеньне 5% падатку з насельніцтва, абмен 100- й 50-рублёвых купюраў, увядзеньне рабочага кантролю, пашырэньне паўнамоцтваў МУС і КДБ у барацьбе з "эканамічнай" злачыннасьцю. І вось справа дайшла да свайго лягічнага завяршэньня. Цэны падвышаныя. Мы робімся сьведкамі чарговага нябачанага экспэрымэнту. Ніхто ня возьме на себя адказнасьць сказаць, што будзе далей. Шахцёрскія страйкі – першая косьць даміно.

**Павел ДАНЕЙКА.**



 



# ПЛЕБІСЦЫТ – НЕЗАКОННЫ?

***Першы ў гісторыі СССР рэфэрэндум ня быў рэфэрэндумам па сваёй сутнасьці. Па ўсіх прыкметах гэта была хутчэй шырокамасштабная прапагандысцкая акцыя. Яе арганізатары разьлічвалі на адно магутнае "так", якое стала-б гарантам іхняе непапулярнае палітыкі. Але магутнае "так" не атрымалася. Па выніках рэфэрэндуму яго ініцыятары атрымалі толькі адносна кароткую адтэрміноўку, у прынцыпе-ж ўсе бакі засталіся пры сваім.***

Суадносіны адказаў "так" і "не" ў папярэдніх выніках рэфэрэндуму сталі найперш фотаздымкам дынамікі грамадзтва на пэўным этапе. Пройдзе месяц-два, і гэтая дынаміка можа прынцыпова зьмяніцца, але на сёньняшні дзень яна дазваляе рабіць пэўныя высновы, а ў роўнай ступені й аналізаваць прычыны падобных вынікаў.

Пэўна-ж, можна весьці гаворку пра ўплыў сапраўды татальнае й вытанчанае камуністычнае прапаганды, якая надзвычай ўдала выкарыстала асаблівасьці масавае сьвядомасьці на Беларусі. Менавіта гэтыя асаблівасьці ў кантэксьце мяйсцовае грамадзка-палітычнае й эканамічнае сітуацыі ў дадзеным выпадку найбольш значныя.

Галоўная з такіх асаблівасьцяў – адсутнасьць альтэрнатывы саюзу ў масавай сьвядомасьці беларускага жыхарства. Гэта ня значыць, што такой альтэрнатывы няма ў прыродзе, – гэта значыць, што яе няма ў сьвядомасьці значнае колькасьці людзей. У адрозьненьне ад суседняе Літвы, якая мела 20-годзьдзе незалежнасьці, Беларусь ад пачатку была ў саюзе (некалькі месяцаў існаваньня БНР – хутчэй гістарычны сымбаль, чымсі рэальная палітычная практыка). Па вялікім рахунку, людзям Беларусі няма да чаго вяртацца, няма чаго аднаўляць.

Знаходжаньне па-за СССР успрымаецца масавай сьвядомасьцю як штосьці ірэальнае, немагчымае – адсутнічае досьвед незалежнага існаваньня. Таму й узьнікаюць абсурдныя па сваёй наіўнасьці пытаньні: "У мяне ў Смаленску сястра, як я буду да яе езьдзіць?" – альбо: "У мяне муж з Расеі, дык яму што, выязджаць?" Таму так лёгка ўспрымаліся на веру заявы пра тое, што "Ня будзем у саюзе – ня будзе рытмічных паставак сыравіны й абсталяваньня".

Выдатнае пацьвярджэньне гэтага тлумачэньня – вынікі галасаваньня па Гомельшчыне й Магілёўшчыне. Забытыя Цэнтрам, найбольш пацярпелыя ад Чарнобыльскае катастрофы вобласьці, атрымліваючы саве "грабавыя" надбаўкі, галасавалі за саюз – менавіта тут працэнт тых, хто адказаў "так" максімальны. Значыць, жыхары гэтых вобласьцяў аддаюць перавагу хай мізэрнай, але гарантаванай дапамозе існага саюзу перад поўнай (для іх) невядомасьцю ў магчымай незалежнай Беларусі. Да таго-ж дамешваецца страх перад "найвышэйшым" пакараньнем за ўпартасьць, – адбяруць і тое, што даюць.

У Гарадзенскай вобласьці вынікі істотна адрозьніваюцца. Дадзеныя па Гародні набліжаюцца да менскіх, а ў некаторых вёсках Гарадзенскага раёну ля польскае мяжы працэнт тых, хто адказаў "не" сягае да 80. І справа тут, відаць, не ў непасрэдным польскім уплыве, справа ў тым, што гэтыя мясьціны да 1939 году былі ў складзе Польшчы. Гістарычны досьвед няхай і не самастойнага, але й некамуністычнага жыцьця ітсотна ўплывае на вынікі, бо ягоны адбітак захаваўся ў масавай сьвядомасьці. Гэта досьвед хаця й ненацыянальнае, але, прынамсі, асабістае волі.

Дадзеныя па Менску (66% "так", 33% "не") тлумачацца даволі высокай палітызаванасьцю менчукоў, адносна моцным (у параўнаньні зь іншымі рэгіёнамі) уплывам дэмакратычных партыяў і рухаў. Інакш кажучы, у Менску тыя, хто адказаў саюзу "не", галасавалі, магчыма, ня так супраць саюзу, 'як супраць камунізму. Сярод менчукоў выявілася больш людзей, якія ў пэўнай ступені атаясамліваюць імпэрскія й камуністычныя тэндэнцыі й таму адмаўляюць імпэрыю як атрыбут і істытут камунізму.

Ў прынцыпе, усьведамленьне гэтае сувязі назіраецца па ўсёй Рэспублцы, пра што сьведчыць і тое, што сярод моладзі працэнт тых, хто адказаў "не", вышэйшы як сярод людзей сталага веку. Моладзь, адмаўляючы ўсю сістэму каштоўнасьцяў мінулага, адмаўляе й саюз як элемэнт гэтае сістэмы. Аднак, шчыльнасьць сувязі паміж імпэрскімі й камуністычнымі, так-бы мовіць, каштоўнасьцямі ня такая ўжо й высокая, прычым яна слабее ад сталіцы да вёскі.

Пра тое, што саюз ёсьць самавартасная каштоўнасьць для даволі многіх, сьведчаць вынікі прэс-апытаньня, праведзенага "Народнай газэтай". З рэспандэнтаў-сяброў БНФ 19% выказаліся за фэдэратыўны саюз. І гэта пры тым, што БНФ зьяўляецца антыкамуністычным рухам, які мае за галоўную мэту дасягненьне незалежнасьці Беларусі.

Кампартыя, відавочна, сьвяткуе перамогу. Як раз для яе каштоўнасьці саюзу й камунізму зьнітаваныя непадзельна, і вынікі рэфэрэндуму КПБ, хутчэй за ўсё, будзе інтэрпрэтаваць як галасаваньне за камунізм. "Гэта як раз той кручок, які знаходзіўся пад чарвяком," – сказаў у адным са сваіх інтэрвію пасьля рэфэрэндуму Зянон Пазьняк.

Аднак, на ягоную думку, малаверагодна, каб вынікі рэфэрэндуму сталі грунтам для шырокіх палітычных спэкуляцыяў. Яны, безумоўна, будуць выкарыстоўваецца цяперашнім Крамлём, але абмежавана. Пытаньне сацыялістычнага выбару не было й пакуль не магло быць пастаўленае ў бюлетэнях адкрыта, таму апэляцыя да вынікаў рэфэрэндуму ў пляне сацыялізму й камунізму на фоне 200-300% падвышэньня цэнаў у масавай сьвядомасьці зьвядзе сам рэфэрэндум да шулерскага прыёму, ашуканства. Вельмі істотнымі зьяўляюцца таксама некаторыя юрыдычныя акалічнасьці арганізацыі рэфэрэндуму на Беларусі. У свой час пытаньне пра яго правядзеньне не было пастаўленае нават у парадак дня сэсіі Вярхоўнага Савету БССР (па выніках галасаваньня яно не прайшло). Такім чынам, сэсія не дала законных падставаў для яго падрыхтоўкі. У гэтай сітуацыі верхавіна партгрупы, вырашыла правесьці пытаньне рашэньнем Прэзідыюму, што было грубым парушэньнем рэгляманту Вярхоўнага Савету, бо пад час працы сэсіі Прэзідыюм не зьяўляецца паўнамоцным ворганам. Прытым пастанова Прызідыюма была сфальсіфікаваная: рэальна яна прымалася 23 лютага, а была датаваная 21.2.1991 г. Акрамя таго яна, як сьведчаць некаторыя дэпутаты, прымалася не на паседжаньні, а шляхам апытаньня.

Гэта дазваляе дэпутатам апазіцыі наогул трактаваць вынікі рэфэрэндуму на Беларусі як незаконныя. На думку Зянона Пазьняка, нават праз гады да іх можна будзе вярнуцца й апратэставаць – гэтак, як была апратэставана незаконнасьць пакту Молатаў – Рыбэнтроп.

**Юры ДРАКАХРУСТ.**

| | Прынялі ўдзел у рэфэрэндуме (у %) | Ці лічыце вы неабходным захаваньне абноўленага Саюзу... | | Ад агульнае колькасьці грамадзянаў, што маюць права голасу | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | так | не | «За» | «Супраць» |
| БССР | 63.5 | 82.6 | 16.0 | 69.0 | 13.4 |
| Менск | 71.1 | 65.6 | 32.7 | 46.6 | 23.2 |
| Гарадзеншчына | 85.2 | 79.8 | 17.9 | 68.0 | 15.3 |
| Берасьцейшчына | 87.2 | 83.6 | 15.2 | 72.9 | 13.3 |
| Меншчына | 86.4 | 85.1 | 13.9 | 73.5 | 12.0 |
| Віцебшчына | 86.0 | 85.7 | 13.1 | 73.7 | 11.3 |
| Магілёўшчына | 82.7 | 87.0 | 11.4 | 71.9 | 9.4 |
| Гомельшчына | 85.3 | 89.6 | 9.3 | 76.4 | 7.9 |

# КАНЦЭПЦЫЯ ГУМАНІТАРНАЙ АДУКАЦЫІ

Некампэтэнтнасьць і непрафэсіяналізм – найістотнейшыя прыкметы часу – апанавалі ўсе сфэры сучаснага жыцьця ў СССР. Непісьменнасьць парлямэнтароў і бездапаможнасьць выканаўцаў, якія абураюць кожнага з нас, – заканамерныя вынікі адсутнасьці канцэпцыі гуманітарнае адукацыі ў Рэспубліцы.

Ня трэба далёка хадзіць па прыклады, узгадайма філялягічны факультэт Белдзяржунівэрсітэту, старэйшы сярод трох рэспубліканскіх. Ня цэнтарам нацыянальнае культуры, а "інстытутам нявест" называюць філфак ў народзе. Як кажуць, што пасееш, тое пажнеш, – нашыя навучальныя пляны разьлічаныя на нешта сярэдняе, нешта сярэдняе з папраўкай на большую ці меншую начытанасьць і выходзіць за рэдкім выключэньнем з факультэту. На старэйшым філялягічным факультэце ўсяго два аддзяленьні – расейскае мовы й літаратуры і беларускае мовы й літаратуры. Няма ані славістычных аддзяленьняў, ані перакладчыцкіх. Большасьць беларускіх перакладчыкаў—самавукі. Існуе на філялягічным факультэце магутная катэдра славянскага мовазнаўства, на якой сканцэнтраваная большасьць факультэцкіх дактароў навук, але славянскія мовы ў нас, на жаль, выкладаюцца толькі факультатыўна. Мала хто з нашых выпускнікоў атрымоўвае права на працу гідам-перакладчыкам. Не рыхтуюцца ў нас ані спэцыялісты па славянскіх культурах, ані спэцыялісты па сусьветнай мастацкай культуры, хаця такі прадмет уведзены ўжо нават у школе. Толькі хто яго будзе выкладаць? Ці ня наш факультэт павінен ўзяцца за гэтую справу?

Чаму так сталася? Чаму ўнівэрсітэцкая філялёгія пераўтварылася ў пэдфак? Чаму мы забылася на сьвятую мэту выхаваньня нацыянальнае інтэлігенцыі, замяніўшы яе імпэратывам падрыхтоўкі кадраў для народнае гаспадаркі? Міністэрства дыктуе, колькі прыняць студэнтаў, міністэрства дыктуе, колькі выпусьціць. Многа адлічылі – папрок, мала ўзялі – каманда.

На працягу дзесяцігодзьдзяў ўсё, што спрыяла гуманізацыі, аддавалася анафэме, а філялёгія, мэтанакіравана пераўтваралася ў грамадзкую дысцыпліну.Марнымі, па вялікім рахунку, заставаліся й прыватныя намаганьні асобных выкладчыкаў, якія, не шкадуючы часу, імкнуліся пашырыць даляглядзы студэнтаў, бо апошнія альбо былі дзецьмі апатыі, альбо не былі здольнымі засвоіць нават праграму "залікоўкі".

Дарэчы, гэтая славутая студэнцкая "залікоўка" патрабуе адмысловых разважаньняў. Што ў ёй пераважае? Мовы? Літаратуры? Відаць, бацькі студэнтаў-філёлягаў упэўненыя, што іх дзеці вывучаюць менавіта мову й літаратуру. Ілюзія. Што тычыцца замежнае літаратуры, дык яна наогул лічыцца непрафілюючай дысцыплінаю з усімі наступствамі. Як любіў гаварыць адзін з намесьнікаў дэкана, які змагаўся за тое, каб вершы Марыны Цьвятаевай былі выключаныя з праграмы, бо яна мыла посуд у буфэце, непрафілюючыя прадметы павінны пішчаць у куточку.

Што-ж было галоўным? Зазірнем дзеля цікаўнасьці ў навучальныя пляны 1989 году. Першы радок – гісторыя КПСС(340 гадзінаў, зь іх 70 лекцыяў, 70 сэмінараў, два іспыты, адзін залік). І ўсё гэта на працягу трох сэмэстраў. Другі радок – марксісцка-ленінская філязофія (адпаведна 280, 56, 60, два іспыты ў чацьвертым і пятым сэмэстрах). Трэйці радок – палітэканомія (289, 56, 60, залік у шостым і іспыт у сёмым сэмэстрах). Чацьверты радок – навуковы камунізм (160, 34, 34, залік у восьмым і іспыт у дзесятым сэмэстрах). Нічога ня скажаш, грунтоўна й пасьлядоўна, у кожным сэмэстры ці то залік, ці то іспыт. Вось ён галоўны падмурак філялягічнае адукацыі. Тым часам як на замежную літаратуру дадзена ўсяго 70 гадзінаў практычных на ўвесь курс ад антычнай да сучаснай. На ўсе шэдэўры сусьветнае літаратуры два іспыты, астатнія залікі. А наш студэнт, як вядома, рыхтуецца толькі да іспытаў, яму-ж яшчэ трэба асіліць цяжар грамадзкіх дысцыплінаў.

Гэтыя монстры ад навукі праглынулі ўсе астатнія надзвычай важныя для філёляга курсы – гісторыю рэлігіі, філязофіі, культуры. Між тым нельга спадзявацца, што студэнт, які ня ведае гісторыі сусьветнае рэлігіі, філязофіі й культуры, здолее дасканала зразумець Вальтэра, Гётэ, Т.Мана, Камю. Узгадайма яшчэ й вайсковую падрыхтоўку – 600 гадзін – і стане зразумела, што гуманітарная адукацыя ў Рэспубліцы толькі шыльдачка, пад якой нават літаратуры й мовы пераўтварыліся ў грамадзкія дысцыпліны.

Рознымі прычынамі абумоўленая трагедыя факультэту. Не апошняе мейсца займае й агульная палітыка ў Рэспубліцы й СССР, дзякуючы якой адукацыя фінансуецца паводле рэшткавага прынцыпу. Умовы працы й стаўленьне да запатрабаваньняў факультэту з боку мяйсцовых уладаў жахлівыя. З 1957 году факультэт месьціцца ў чатырохпавярховым корпусе, у якім 44 аўдыторыі, далучыце сюды ўсе габінэты, прафэсарскую й дэканат. Калі напачатку гэтага хапала, дык апошнія 15 год факультэт беспасьпяхова змагаецца за пашырэньне плошчаў. 165 выкладчыкаў і больш як паўтары тысячы студэнтаў пазбаўленыя элемэнтарных умоваў працы. Ніводзін з загадчыкаў катэдраў ня мае габінэту. Катэдральныя габінэты пераўтварыліся ў аўдыторыі, дзе заняткі праводзіцца ў дзьве, а не –у тры зьмены. Кансультацыі ідуць проста на лесьвіцы ці на калідоры. Няма нават чытальнае залы, не хапае плошчаў для бібліятэкі, няма пакояў адпачынку й гігіены.

Колькі-ж было прашэньняў, заяваў, калектыўных лістоў у розныя інстанцыі, што ўзарпавалі права вырашаць, і ўсё марна. Далі, каб адчапіцца, як кажуць, – некалькі аўдыторыяў у будынку старое школы па вуліцы Захарава, дзе, каб патрапіць у аўдыторыі й гардэроб, трэба прайсьйці праз мужчынскую прыбіральню. Тым часам для кампартыі, якая нібыта перажывае крызіс, усё засталося па-ранейшаму – лепшыя будынкі ёй, лепшае тэхнічнае забесьпячэньне ёй, лепшыя магчымасьці ёй, і КПСС, не пасьпелі мы й вокам міргнуць, абрасла каапэратывамі, малымі й сумеснымі прадпрыемствамі, і на ўласнаручна запаленае зялёнае сьвятло ўпэўнена маршыруе да рынку.

Да прыкладу, былы будынак інстытуту гісторыі партыі, на які прэтэндавала філялёгія, заняты цяпер райкамамі, у тым ліку і ЛКСМБ, а таксама сумесным прадпрыемствам "Альба Росія". Такі лёс напаткаў ня толькі філфак, у філфакаўскім люстэрку адбіваецца трагедыя ўсяе гуманітарнае адукацыі ў Рэспубліцы, якая, зарыентавая на марксісцка-ленінскую канцэпцыю сьвету й чалавека, стала прыслужніцаю ля канвэеру па штампоўцы Homo sovieticus.

Распачатая ў апошнія гады рэформа вышэйшае школы нічога не зьмяніла й ня зьменіць, пакуль нацыянальную канцэпцыю гуманітарнае адукацыі мы будзем падмяняць састарэлымі стэрэатыпамі й рэкамэндацыямі цэнтральных ведамстваў, пакуль не прасочым прамую сувязь, што існуе паміж гэтай канцэпцыяй і праблемамі духоўнага разьвіцьця Беларусі.

Найперш мы павінны адмовіцца ад гігантаманіі масавых патокаў, пагоні за лічбамі й колькасьцю дыплёмаў, ад уніфікаваных амаль на ўвесь Саюз навучальных плянаў, бо гэтая сістэма варожая чалавеку. Мы павіны скласьці свае навучальныя пляны, якія будуць адпавядаць інтарэсам і патрэбам Рэспублікі, пашырыць кола спэцыялізацыяў, у прыватнасьці, адчыніць аддзяленьне славянскіх моваў і літаратураў, аддзяленьне клясічнае філялёгіі.

Трэба пераарыентаваць праграмы ўсіх прынятых курсаў на Чалавека, яго нутраны сьвет, экзістэнцыяльныя праблемы, пытаньні жыцьця чалавека "у сабе", пераадолець стэрэатыпы дагматычнае сьвядомасьці, якая цяпер зарыентаваная выключна на марксізм-ленінізм, даць студэнтам адэкватнае сусьветнай практыцы ўяўленьне пра ўсе філязафічныя сістэмы. Што датычыцца грамадзкіх дысцыплінаў, трэба замяніць вялізныя курсы зь вялікай колькасьцю практычных, іспытаў і залікаў на разнастайныя спэцкурсы на выбар студэнтаў. Яны павінны быць зарыентаваныя на самую актуальную праблематыку, на жывое дыскусійнае абмеркаваньне, разьвіцьцё вуснае мовы, палемічнасьці, уменьня весьці спрэчку. Патрэбнае шчыльнае супрацоўніцтва ўсіх гуманітарных факультэтаў, якое можа стаць падставаю для стварэньня беларускага гуманітарнага ўнівэрсітэту. Беларусі патрэбны Цэнтар гуманітарных дасьледваньняў, які мусі быць адчынены менавіта пры ўнівэрсітэце, а не пры міністэрстве. Трэба аднавіць выхаваньне асобы не на маральным кодэксе будаўніка камунізму , а на нармалёвай аснове. Мы павінны ва ўсім спрыяць беларусізацыі, як аднаму з надзвычай важных сродкаў ажыцьцяўленьня гуманізацыі.

Чалавек, Асоба, Духоўнасьць – вось падмурак гуманітарнае адукацыі.

**Ірына Шаблоўская,**
**прафэсар, доктар філялёгіі.**






 

# ГОД ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА КАМІТЭТУ ДАПАМОГІ АХВЯРАМ РАДЫЯЦЫІ

## справаздача за 1990 год



Беларускі Камітэт Дапамогі Ахвярам Радыяцыі паўстаў у Лёндане ў канцы 1989 году. Прычынай узьнікненьня былі трывожныя весткі аб выніках Чарнобыльскае трагедыі ў Беларусі, а непасрэдным "штуршком" паслужыў зварот Беларускага Народнага Фронту да першаерарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Архіепіскапа Мікалая й да Апостальскага Візітатара для беларусаў каталікоў а.Аляксандра Надсона з просьбаю аб дапамозе ахвярам радыяцыі.

У камітэт увайшлі скарбнік Беларускага Дапамогавага Фонду ў Англіі Павал Асіповіч, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі Ян Міхалюк, Старшыня Англа–Беларускага Таварыства Джэймс Дынглей, журналістка Вера Рыч і а.Аляксандар Надсон, які быў выбраны старшынёю. Айцец Язэп Сіру з ЗША, Д-р Раіса Жук–Грышкевіч з Канады, Міхась Лужынскі з Аўстарліі й Міхась Наўмовіч з Францыі згадзіліся быць прадстаўнікамі Камітэту ў іхніх краінах. Для банкавых і падатковых мэтаў Камітэт лічыцца часткаю Беларускага Місійнага Фонду (Byelorussian Mission Trust), які зьяўляецца зарэгістраванай дабрачыннай установаю.

12 лістапада 1989 г. быў выдадзены на беларускай, ангельскай і французскай мовах камунікат–заклік "Наш боль... наш доўг", у якім, між іншым, было сказана, што галоўнай мэтаю Камітэту будзе "ў меру магчымасьці несьці дапамогу жыхарам радыяцыйнае зоны ў выглядзе лякарстваў, лекарскіх прыладаў, прыладаў да вымярэньня вышыні радыяцыі й г.д.".

Водгук на заклік быў такі, што ўжо ў сакавіку 1990 г. Камітэт мог выслаць першы транспарт зь лекарскімі прыладамі й вітамінамі...

Фінансавая дзейнасьць Камітэту ў 1990 годзе выглядала наступна:

| | Ангельскія фунты |
|---|---|
| **Прыбыткі:** | |
| Ахвяры | 33022,22 |
| Інш. прыбыткі | 83,00 |
| Разам | 32105,22 |
| **Выдаткі:** | |
| Закуп лекаў | 160,43 |
| Іншыя выдаткі | 10,65 |
| Разам | 16051,08 |

Засталося на 1 студзеня 1991 г. 16054,14 ангельскіх фунтаў, у гэтым 1619,42 фунтаў на закуп звышгукавага "сканэра" і 351,85 на пабудову дому для адзінокіх старых з зоны радыяцыі (Праект БНФ). З агульнае сумы выдаткаў 11872,47 фунтаў пайшлі на закуп лекаў супроць лейкозных захвораньняў; 2639,13 на аднаразовыя шпрыцы, сістэмы для пераліваньня крыві, катэтары і г.д.; 1528,83 на вітаміны, рыбін тлушч і г.д.

Апрача грашовых ахвяраў Камітэт атрымаў шмат дароў "у натуры". Айцец Патрык О'Магоны з Солігал прыслаў вялікую колькасьць аднаразовых шпрыцоў, катэтараў, вітамінаў і розных лекаў вартасьцю больш за 25 тысяч фунтаў. Падобныя, хоць меншыя, дары былі атрыманыя ад іншых асобаў. Перад Калядамі шмат хто прыслаў цацкі, цукеркі й г.д. для хворых дзетак. Дзякуючы гэтаму Камітэт выслаў у Беларусь дапамогу вартасьцю больш за 45 тысяч фунтаў.

Дакладны пералік усяго высланага заняў-бы за шмат мейсца, але наступныя лічбы дадуць аб гэтым нейкае ўяўленьне: сярод высланых рэчаў было 25 тысяч шпрыцоў, 3500 сістэмаў для пераліваньня крыві й столькі-ж катэтараў, 750 тысяч таблетак полівітамінаў.

Былі зарганізаваныя тры транспарты зь лекамі. Першы зь іх, як было ўжо згадана вышэй, меў мейсца ў сакавіку. Гэта быў параўнаўча невялікі транспарт, ён складаўся з аднаразовых шпрыцоў, сістэмаў для пераліваньня крыві й полівітамінаў. Суправаджаў яго цягнікам а.Аляксандар Надсон, які прабыў у Менску ад 10 да 16 сакавіка. Нягледзячы на кароткі час, паездка была карысная, бо дала магчымасьць пабачыць на ўласныя вочы вынікі Чарнобыльскае трагедыі ў Беларусі, пазнаёміцца зь лекарамі й сябрамі Камітэту БНФ "Дзеці Чарнобыля", даведацца аб іхніх патрэбах. Другі транспарт пакінуў Лёндан 24 ліпеня й вярнуўся 12 жніўня. Гэтым разам гэта быў 1,5-тонны фургон (van). Вялікую частку транспарту складалі лекі супроць леўкеміі. У падобны спосаб быў зарганізаваны трэйці транспарт, ад 20 сьнежня да 10 студзеня 1991 г. у якім, апрача лекаў, былі калядныя падарункі для дзетак. Апрача а.Надсона, транспарты суправаджалі ў якасьці кіроўцаў: летам Міхась Баяроўскі й Эдвард Ўолш, а зімою – Эдвард Міхалюк і Валеры Мартынчык.

Усе, хто езьдзіў на Беларусь зь лекамі, пакрывалі ўласныя кошты падарожжа. Вялікая падзяка належыцца сп. Джону Лёнгфарду зь Бірмінгаму, які летам даў да карыстаньня бясплатна свой фургон. На трэйцяе падарожжа фургон давялося наняць. Кошты найму пакрыў Апостальскі Візітатар для беларусаў. Усе канцылярскія й паштовыя выдаткі, а таксама кошты выданьня інфармацыйных бюлетэняў, узяла на сябе Беларуская Каталіцкая Місія ў Лёндане. Дзякуючы гэтаму Камітэт у мінулым годзе ня меў ніякіх адміністрацыйных і транспартных выдаткаў. Усе атрыманыя ім ахвяры маглі ісьці на мэту, для якой яны былі прызначаныя, г. зн. на закуп лекаў для ахвяраў Чарнобыльскай трагедыі ў Беларусі.

Сярод супрацоўнікаў Камітэту неабходна ўспомніць сп.Міхася Баяроўскага з Бромсгров. Ён і ягоная жонка Норма нястомна працуюць над пашырэньнем вестак аб Чарнобыльскай трагедыі й зьбіраньнем фондаў. Можна сказаць, што летняя паездка ў Беларусь была магчымая ў вялікай меры дзякуючы іхнім стараньням.

Камітэт стараецца мець непасрэдны кантакт зь беларускімі ўстановамі, якія займаюцца апекаю й лячэньнем ахвяраў радыяцыі. Гэта дае магчымасьць асабістага кантакту зь лекарамі, хворымі й, у выпадку дзяцей, іхнімі бацькамі; лепш асэнсаваць сапраўднае становішча й канкрэтныя патрэбы; захаваць кантроль над разьмеркаваньнем дапамогі. Трэба таксама ўлічыць немалаважнае значэньне псіхалягічнага моманту такіх асабістых кантактаў: лекары й пацыенты бачаць, што яны не забытыя. Усё гэта было-б цяжка зьдзейсьніць без дапамогі й супрацоўніцтва з боку Камітэту "Дзеці Чарнобыля" й асабліва ягонага старшыні Генадзя Грушавога. Гэты камітэт, пакліканы да жыцьця Беларускім Народным Фронтам у 1989 годзе, нягледзячы на вялікія цяжкасьці (праз доўгі час улады адмаўляліся прызнаць яго), зрабіў шмат для палягчэньня лёсу беларускіх дзетак, які сталіся ахвярамі Чарнобыльскае трагедыі. Трэба толькі пажадаць, каб сардэчныя адносіны й супрацоўніцтва, якія ўстанавіліся між нашымі камітэтамі, мацнелі ў будучыні на карысьць для супольнае справы.

Беручы пад увагу сьціплыя магчымасьці, сябры камітэту палічылі мэтазгодным выбраць некалькі лекарскіх ўстановаў і старацца памагаць ім, пазнаёміўшыся перш зь іх канкрэтнымі патрэбамі. Параіўшыся з Камітэтам "Дзеці Чарнобыля", былі выбраныя на пачатак тры ўстановы: дзіцячы гематалягічны цэнтар у Менску (дырэктар – Доктар В.Алейнікава); дзіцячы гематалягічны аддзел Гомельскае абласное лякарні (Доктар Т.Шуміхіна); і раённая лякарня ў Хойніках (Доктар А.Тарасевіч). Трэба спадзявацца, што з часам гэты сьпіс станецца даўжэйшым...

Камітэт стараецца пашыраць весткі Чарнобыльскай бядзе й таксама трымаць сувязь з ахвярадаўцамі, выдаючы заклікі й інфармацыйныя бюлетэні на беларускай, ангельскай і французскай мовах. Вялікую паслугу зрабілі ангельскія сродкі інфармацыі. Вярнуўшыся зь першае паездкі ў Беларусь, а.Надсон меў нагоду выступіць у ангельскім тэлебачаньні. Хутка пасьля пачалі зьяўляцца артыкулы аб Чарнобыльскай трагедыі й аб дзейнасьці камітэту ў газэтах і часопісах, сярод іх у "Sunday Times", "Hendon and Finchley Times", "The Tablet", "New Scientist", "Nursery World", "Catholic Familiy" ды іншых. Між іншым, дзейнасьць Камітэту выклікала вялікую цікавасьць ў Беларусі. Аб ім гаварылася ў беларускім радыё, пісалася ў прэсе, ("Літаратура і мастацтва", "Чырвоная зьмена", "Знамя юности", "Гомельская праўда", "Голас радзімы", "Свабода", "Наша слова" й г.д.).

Справаздача была-б няпоўная, калі-б мы ня ўспомнілі тых, без каго дзейнасьць камітэту была-б немагчымай: сотняў прыяцеляў усіх нацыянальнасьцяў зь Вялікае Брытаніі, Францыі, Нямеччыны, Бэльгіі, ЗША, Канады, Аўстраліі, Новае Зэляндыі ды іншых краінаў, якія, прыняўшы да сэрца бяду, што спаткала беларускі народ, адгукнуліся на наш заклік і падтрымалі нас сваімі грашовымі ахвярамі (часта ананімна) і прапановамі супрацоўніцтва. Хай Бог аддзячыць ім за іхнюю дабрату. Спадзяемся на іхнюю падтрымку й у будучыні.

Падсумоўваючы, трэба сказаць, што вынікі дзейнасьці Камітэту вельмі сьціплыя: тое, што нам удалося зрабіць, зьяўляецца толькі кропляй у моры патрэбаў, выкліканых Чарнобыльскай бядой. З другога боку, досьвед, набыты пры арганізацыі транспартаў зь лекамі, і непасрэднае знаёмства са становішчам у Беларусі й яе найважнейшымі патрэбамі будуць вельмі карыснымі ў далейшай дзейнасьці. Сёньня мы ведаем, што, хоць лёс дзяцей павінен заставацца галоўным прадметам клопатаў, існуюць іншыя праблемы, на якія неабходна зьвярнуць увагу. Сярод іх праблема старых адзінокіх людзей у зоне радыяцыі й праблема г.зв. "ліквідатараў". Ня ўсё, што хацелася, удалося выканаць. Мы яшчэ не маглі купіць звышгукавага "сканэра" з прычыны слабога водгуку на наш заклік у гэтай справе. Спадзяемся, што ўдасца набыць яго сёлета. Нам вельмі балюча, што ня можам задаволіць просьбаў бацькоў, якія просяць памагчы выслаць іхніх хворых дзетак на лячэньне за мяжу: на гэта у нас няма ні фізічных ні фінансавых магчымасьцяў. Дый гэта не разьвязвае праблемы тысяч хворых дзетак, якія ня могуць выехаць. Трэба прыкласьці ўсе сілы, каб стварыць у Беларусі ўмовы, якія-б зрабілі выезд на лячэньне за мяжу непатрэбным. Наш камітэт хацеў-бы ўнесьці свой маленькі ўклад у гэтую справу.

26 красавіка споўніцца пяць гадоў ад часу найбольшае атамнае трагедыі на сьвеце. Беларусы будуць сустракаць дзень з болем у сэрцах і трывогаю за будучыню свайго народу. Сёньня шмат гаворыцца пра Чарнобыль, прымаюцца розныя пастановы й праграмы. Улады, якія больш як тры гады нічога не рабілі й хавалі перад людзьмі праўду, раптам заварушыліся. Але ці не запозна? Забруджаньне радыёнуклідамі ўсьцяж пашыраецца на новыя тэрыторыі, павялічваецца лік захвораньняў. Ня дзіва, што людзі страцілі ўсялякі давер да ўладаў.

Нехта трапна назваў беларусаў нацыяй "заложнікаў Чарнобылю". А лёс заложнікаў вядомы. Аднак нельга зьняверавацца. Хутка будзем сьвяткаваць радаснае сьвята Вялікадня. Але-ж перад Вялікаднем была Пятніца, калі здавалася, што ўсяму прыйшоў канец. Аб гэтым варта не забывацца, рыхтуючыся сустрэць сумны Чарнобыльскі юбілей. І старацца усімі сіламі ня даць згаснуць промню надзеі.

**Аляксандар НАДСОН,**
**Апостальскі Візытатар для Беларусаў,**
**Старшыня Камітэту**

Лёндан, 20 лютага 1991 г.

**Byelorussian Mission Trust**
**Charity Reg. No.295752**

**БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ ДАПАМОГІ АХВЯРАМ РАДЫЯЦЫІ**
**BYELORUSSIAN RADIATION RELIEF APPEAL**
**Marian House, Holden Avenue, London N12 8HY**
**Tel: 081-445 5358**

Ахвяры можна слаць непасрэдна ў Лёндан, або праз прадстаўнікоў у краінах, дзе яны ёсьць. Чэкі і грашовыя пераказы просім выстаўляць на: **Byelorussian Mission Trust (Radiation Relief)**

Камітэт: Павал Асіповіч, Джэймс Дынглей (сакратар), Ян Міхалюк, а.Аляксандар Надсон (старшыня), Вера Рыч.

Прадстаўнік на цэнтральную Англію: Міхась Баяроўскі.
Адрас: Mr Michael Bojarowski, 6 Fairways Drive, Blackwell, Bromsgrove B60 1BB.
Tel.: 021–445.5853

Прадстаўнік у ЗША: а.Язэп Сіру, настаяцель царквы Хрыста Збавіцеля ў Чыкага.
Адрас: Rev. Joseph Cirou, Christ the Redeemer Church, 3107 W. Fullerton Avenue, Chicago, IL 60647. Tel.:(312)342.7373

Прадстаўнік у Канадзе: Др Раіса Жук–Грышкевіч.
Адрас: Dr Raisa Zuk–Hryskievic, 54 Mary Street, Barrie, Ont. L4N 1T1. Tel.: (705)728.7581

Прадстаўнік у Аўстраліі: Міхась Лужынскі.
Адрас: Mr Michael Luzhynski, 22 Virginia Street, Guildford West, NSW 2161. Tel.: (02)681.1446

Прадстаўнік у Францыі: Міхась Наўмовіч.
Адрас: Mr Michel Naumovic, 22 Avenue Jean–Jaurès, 93420 Villepinte. Tel.: (1)48.61.30.71





# ЯК ЛЯСНЫ ПАЖАР

На другі дзень пасьля падвышэньня цэнаў па Менску пракацілася хваля стыхійных страйкаў. Роўна ў 9.10 яе распачаў Электратэхнічны завод імя Казлова. З 3.500 чалавек, занятых на першай зьмене, у сваіх габінэтах засталіся толькі інжынэрна-тэхнічныя работнікі й службоўцы. Рабочыя-ж зь лёзунгам "Рынкавым цэнам – рынкавую зарплату" выйшлі на вуліцу. Яны перагарадзілі вул. Даўгабродзкую, спынілі рух трамваяў і распачалі мітынг. Іхнімі галоўнымі патрабаваньнямі былі тэрміновае падвышэньне зарплаты й адмена 5% прэзідэнцкага падатку з продажу.

Хутка вестка пра страйк даляцела да іншых прадпрыемстваў. Спыніліся заводы аўтаматычных ліній, шасьцерняў і большасьць з падраздзяленьняў (за выключэньнем зборкі) трактарнага. Рабочыя гэтых заводаў выйшлі на вуліцы й накіраваліся да Электратэхнічнага, каб прыняць удзел у мітынгу. Неўзабаве іхнія патрабаваньні набылі палітычны напал. Акрамя ўжо названых эканамічных прэтэнзіяў яны запатрабавалі роспуску Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, адстаўкі Прэзідэнта Гарбачова й перавыбараў Вярхоўнага Савету Рэспублікі на шматпартыйнай аснове, роспуску парткамаў на прадпрыемствах і ва ўстановах.

Як паведаміў старшыня прафкаму трактарнага заводу сп. Сідаровіч, галоўным імпульсам для спыненьня заводу імя Казлова стала новая цана комплексных абедаў у заводзкай ядальні – 2 руб. 70 кап., на якую рабочыя не атрымалі кампэнсацыі. Але той факт, што рабочыя трактарнага, якія атрымалі 25-рублёвую кампэнсацыю за абеды, таксама далучыліся да страйку, сьведчыць пра больш глыбокія прычыны.

Пад час мітынгу быў створаны страйкавы камітэт, у які ўвайшлі сп.сп. Г. Кобусь, В. Дзядзіцкі, М. Казлоў, І. Пайдрэ, А. Несьцярэнка, Э. Прыхуцін, Г. Мухін і Г. Быкаў, сустаршынямі гарадзкога страйкаму сталі рабочы завода "Электронмаш" Г. Мухін і рабочы завода аўтаматычных ліній Г. Быкаў. Для перагавораў з забастоўшчыкамі прыехалі старшыня Менгарсавету Герасіменка й намесьнік старшыні Саўміну БССР Пілюта. Была створаная пагадняльная камісія, у выніку работы якой дасягнуты кампраміс: рабочыя згадзіліся вярнуцца на вытворчасьць да наступнае серады. За тыдзень ўрад Рэспублікі павінны задаволіць прад'яўленыя патрабаваньні. Адно з актуальных пытаньняў кампрамісу – прадастаўленьне сябрам страйкаму 10 хвілінаў эфіру ў зручны для гледачоў час на беларускай тэлевізіі.

Што датычыцца іншых прадпрыемстваў Менску, сітуацыя на іх непрагназуемая. Як паведаміла па тэлефоне намесьніца старшыні прафкаму шарыкападшыпнікавага заводу сп. З. Жураўская: "На "шарыках", як на парахавой дзежцы", у цэхах ствараюца страйкамы. Што будзе заўтра невядома. Гэткае-ж меркаваньне выказаў адзін з сустаршыняў Менскага страйкаму Г. Мухін. Ён падкрэсьліў, што хваля страйкаў у любы момант можа перакінуцца на другія прадрыемству Менску й Рэспублікі.

Цытадэль камунізму апынулася не такой ўжо й трывалай. І хаця галоўнай прычынай страйкаў было падвышэньне цэнаў, справа ня толькі ў ім, яно адыграла толькі ролю запалу. Спрацаваў яшчэ цэлы шэраг чыньнікаў: двухгадовая прапаганда БНФ, страйк шахцёраў, зьезд народных дэпутатаў РСФСР і г.д. Беларускае грамадзтва, беларускі рабочы былі гатовыя да страйку. Пра гэта сьведчыць тое, што ў першы-ж дзень зьявіліся палітычныя патрабаваньні. Іх не магло быць, калі-б у сьвядомасьці хаця-б часткі рабочых не зьявілася цьвёрдая ўпэўненасьць, што прычыны цяперашняга крызісу маюць палітычны характар.

Што датычыцца ўплыву БНФ і другіх дэмакратычных арганізацыяў Рэспублікі, то ён праявіўся даволі цікавым чынам. Сапраўды, Фронт ня стаў масавым рухам, але стварыў пэўныя структуры, якія, хаця й невялікія, але былі амаль на кожным прадпрыемстве. Цяпер менавіта яны й сталі ядром страйку. За гэта гаворыць і абраньне сябраў БНФ Г. Мухіна й Г. Быкава сустаршынямі страйкаму.

БНФ не арганізоўваў страйк, страйк быў нечаканасьцю, але Фронт надаў яму форму асэнсаванага сацыяльнага дзеяньня. Гэта атрымалася абсалютна натуралёва.

Магутны запал у выглядзе падвышэньня цэнаў і падрыхтаваная сьвядамасьць людзей адразу зрабілі працэс лавінападобным. Воклiч "Страйк!" распаўсюджваўся па заводах як лясны пажар, страйкамы, створаныя на многіх менскіх заводах, нават тых, што не спынялі працы. Відаць, таму камуністы так баяліся невялікага БНФ. Яны баяліся не яго, а ляснога пажару.

Безумоўна, ня варта пераацэньваць значэньня страйку. Народная актыўнасьць ведае й прылівы, і адкаты, носіць стыхійны характар. Людзей, якія толькі-толькі выпрасталі плечы й распачалі барацьбу за свае правы, могуць падмануць, запалохаць, падкупіць. Але гэта новая якасьць сацыяльнага працэсу, новы рух Беларусі да свабоды.

Фота Кастуся Войткі.

Ірына Лазоўская, Юры Дракахруст.









НАВІНЫ Беларускага Народнага Фронту «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Нумар падрыхтавалі: Алена Вашчанка, Кастусь Вашчанка, Кастусь Войтка, Алена Галаўчак, Павел Данейка, Юры Дракахруст, Аляксандар Лазоўскі, Ірына Лазоўская, Уладзімер Панада, Юры Рагуля, Алесь Суша (рэдактар), Валеры Сядоў, Павел Тушынскі. Заснавальнік Зянон Пазьняк. Ліцэнзія №67. Меркаваньне аўтараў публікаваных матар'ялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі й кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе й не вяртае.
Адрас: 220050, Менск, вул. К. Маркса, 25 – 79. Тэл. 27-06-04.

Типография. г. Орша, ул. Минская, 3. Сп. печати офсетный. Объем 2 п.л. Тираж 20 тыс. Зак. 1097.